# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№5 (276)

травень 2025






Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"


**У НУМАРЫ:**

## Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч атрымалі медаль Францыска Скарыны

Медаль уручыла кіраўніца Аб'яднанага Пераходнага Кабінета Святлана Ціханоўская падчас працоўнага візіту ў Злучаныя Штаты Амерыкі.


Старонка 2




**НЕ ВАЙНЕ!**

**ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ**




# "БУДЗЬМА" ШЧЫРА ДЗЯКУЕ ЎСІМ ЗА ПАДТРЫМКУ І ЗАКЛІКАЕ: "НЕ СПЫНЯЙЦЕСЯ!"

Даражэнькія нашы чытачы і чытачкі, сябры і сяброўкі!

Шчыра дзякуем усім, хто адгукнуўся на нашую просьбу аб дапамозе. Для нас гэта вельмі каштоўна! Мы цэнім кожны ваш ўнёсак.

Дзякуючы вашай падтрымцы мы маем магчымасць працягваць працу і ствараць унікальны беларускі кантэнт. У прыватнасці, у красавіку і напачатку траўня дзякуючы вашым ахвяраванням мы змаглі:

- стварыць 12 аўтарскіх артыкулаў,
- 5 шортсаў серыі "Такая гісторыя"
- 2 апошнія відэа гістарычнага серыялу "Трызуб і Пагоня"
- кампенсаваць высілкі каманды па стварэнні і прасоўванні матэрыялаў у сацсетках;
- аплаціць хостынг;
- працягнуць працу бот-афішы "Будзьма разам", каб вы ведалі, дзе і што адбываецца ў беларускім жыцці і лягчэй знаходзілі сабе аднадумцаў.

Не будзем хаваць, сітуацыя па-ранейшаму застаецца вельмі складанай. Пакуль нам не ўдалося знайсці стабільную крыніцу фінансавання. І мы па-ранейшаму разлічваем на вашую дапамогу. Без яе нашая праца будзе немагчымай.

У нас за плячыма 17 гадоў плённай працы па пашырэнні беларушчыны, папулярызацыі нашай гісторыі, мовы і культуры. Дзякуючы вашай падтрымцы мы бачым, што гэтая праца была не дарэмнай.

Калі вы, гэтаксама як і мы, лічыце, што беларуская культура – гэта той падмурак, без якога немагчыма захаваць незалежнасць краіны, працягвайце падтрымліваць нас. Разам мы зможам болей!

**Як нас падтрымаць**

Вось некалькі спосабаў, як можна нас падтрымаць, калі вы НЕ ў Беларусі:

1. Набыць кубачак кавы на платформе ko-fi.com. Вы можаце набыць адзін кубачак альбо аформіць падпіску на штомесячную падтрымку.

2. Пералічыць ахвяраванне наўпрост на банкаўскі рахунак у Літве:
Нумар рахунка: LT874010051003596075
Банк: Luminor Bank AS Lithuanian branch, SWIFT AGBLLT2X
Адрас банка: Konstitucijos pr. 21A, 03601 Vilnius, Lietuva
Атрымальнік плацяжу: VSJ Bukim kartu ("Будзьма разам")
Код арганізацыі: 304102906 (аналаг нашага УНП)
Прызначэнне плацяжу: Donation

3. Пералічыць ахвяраванне на банкаўскую картку:
4220 7301 7151 8283
дзейсная да 11/28
VSJ Bukim kartu
Прызначэнне плацяжу: Donation

4. Зрабіць данат праз PayPal: https://www.paypal.com/paypalme/budzma

budzma.org



навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ДАСЛЕДЧЫКІ НАТАЛЛЯ ГАРДЗІЕНКА І ЛЯВОН ЮРЭВІЧ АТРЫМАЛІ МЕДАЛЬ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Падчас працоўнага візіту ў Злучаныя Штаты Амерыкі кіраўніца Аб'яднанага Пераходнага Кабінета Святлана Ціханоўская ўручыла медаль Францыска Скарыны даследчыцы беларускай эміграцыі Наталлі Гардзіенцы. Медалём Скарыны таксама ўзнагароджаны Лявон Юрэвіч.

**Наталля Гардзіенка** – гісторык, архівіст, Кандыдатка гістарычных навук, рэдактарка альманаха "Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва", сябра ўправы Беларускага Інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, аўтарка шматлікіх прац па гісторыі беларускай дыяспары.

Медалём Скарыны таксама ўзнагароджаны **Лявон Юрэвіч** – вядомы беларускі архівіст, гісторык літаратуры, бібліёграф, крытык каментатар і публікатар шматлікіх дакументаў і мастацкіх тэкстаў беларускай эміграцыі, якія дзякуючы яго нястомнай дзейнасці рэгулярна ўваходзяць у навуковы ўжытак.

Летась у выдавецтве "Камунікат" выйшаў грунтоўны даведнік "Кніга могілак. Беларускія пахаванні ў свеце", падрыхтаваны Наталляй Гардзіенка і Лявонам Юрэвічам. Гэта ўнікальнае без перабольшання выданне.



Удзельнікі цырымоніі ўзнагароджання

### Хто яшчэ ўзнагароджаны

Медаль "За плённую працу на карысць Беларусі" атрымалі:

**Ала Орса-Рамана** – грамадская і культурная дзяячка беларускай дыяспары ў ЗША, вучоная-хімік, доктар хімічных навук.

**Алеся Кіпель** – беларуска-амерыканская грамадская дзяячка, юрыстка – за шчырую адданасць беларускай справе, прамоцыю ідэй вольнай і незалежнай Беларусі ў ЗША;

**Алеся Сёмуха-Грынберг** – беларуская грамадская дзяячка, спонсарка шматлікіх гуманітарных і культурніцкіх праектаў – за крэатыўную дзейнасць па захаванні і прамоцыі беларускай мовы і літаратуры ў ЗША і ў Беларусі;

**Ірына Красоўская** – грамадская дзяячка, праваабаронца – за шматгадовую праваабарончую дзейнасць і асабісты ўнёсак у ліквідацыю знікненняў людзей у Беларусі і ва ўсім свеце.

budzma.org

# БЛОГ УСЯСЛАВА ЧАРАДЗЕЯ ВЫЙШАЎ АЎДЫЁКНІГАЙ

Выдавецтва Audiobooks.by выпусціла аўдыёверсію рамана-анекдота Паўла Касцюкевіча "Блог Усяслава Чарадзея". Упершыню кніга выйшла ў 2013 годзе ў выдавецтве "Логвінаў", цяпер жа рыхтуецца перавыданне на паперы ў Gutenberg Publisher.

"Ведаем, вы гэтага чакалі! Так, гэта той самы Слава Ч. – цяпер ягоны блог можна паслухаць цалкам і без цэнзуры на любой зручнай вам пляцоўцы", – пішуць у інстаграме выдаўцы з Audiobooks.by і запрашаюць слухаць першую частку бясплатна на YouTube.

Таксама кніга даступная цалкам на іншых пляцоўках: Kobo (працуе ў Беларусі), Google Play Books, Apple Books, Spotify Audiobooks.

"Легендарны Усяслаў Чарадзей не ёсць полацкім князям, які часам знянацку ператвараецца ў ваўка, а наадварот – вольным зверам, які раз-пораз наахвотна залазіць на полацкі трон і ў людскія адзежыны, – гаворыцца ў анатацыі. – На старонках свайго запаветнага блога гэты мірны ваўкалак-вегетарыянец дзеліцца з чытачом, як гэта – апынуцца ў княскай скуры і кіраваць старадаўнім Полацкам княствам. Блогу Чарадзей давярае ўласныя шляхетныя перажыванні, скардзіцца на недасканаласць і адсталасць сучаснага яму сярэднявечнага чалавечага грамадства, дзеліцца аб прагрэсіўных навінках ляснога мегаполісу, а таксама расказвае пра сваё неймавернае падарожжа ў часе па тысячагадовай рацэ беларускай гісторыі".

Аўтар выказвае падзяку Ніне Шыдлоўскай і Алене Макоўскай, каардынатарам кампаніі.

bellit.info



адукацыя

# БЕЛАРУСКУЮ МОВУ ВЫКЛАДАЮЦЬ УЖО Ў ДЗВЮХ ШКОЛАХ СТАКГОЛЬМА. АЛЕ ІХ МОЖА БЫЦЬ І БОЛЕЙ

Інфармацыяй пра тое, што ўжо ў дзвюх школах Стакгольма выкладаюць беларускую мову ў фармаце modersmal (урокі роднай мовы тым школьнікам, для якіх шведская мова не родная), з задавальненнем падзялілася суполка „Беларусы ў Швецыі“.

Ахвотныя вывучаць беларускую мову могуць атрымаць месца ў школах Västbergaskolan (раён Hägersten) і Metapontum (раён Älvsjö), калі жывуць непадалёк.

Каб беларуская мова з’явілася і ў іншых школах, трэба, каб у камуне набралася пяць вучняў.

„Беларусы ў Швецыі“ адзначаюць, што беларуская мова – даволі новая з’ява для шведскай школы, таму з атрыманнем сваіх навучальных гадзінаў можа паўстаць праблема. Але калі аб’яднацца, даслаць свае заяўкі ў камуну адначасова, а таксама нагадваць пра іх чыноўнікам па тэлефоне, то гэтай праблеме можна даць рады.




Таксама суполка „Беларусы ў Швецыі“ нагадвае, што самы лепшы час, каб заняцца гэтымі справамі, – менавіта зараз. І калі ўсё атрымаецца, то ўжо ўвосень дзеці змогуць пачаць вучыць беларускую мову.

ЗБС „Бацькаўшчына“

# Ганна Смык-Койла: СЁЛЕТА ТОЛЬКІ 12 КАНДЫДАТАЎ У БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ ГРУПЫ САДКА №14

Дзіцячы садок №14 у Беластоку адзначае сёлета падвойны юбілей: 75 гадоў сваёй дзейнасці і 30 гадоў з таго часу, як тут пачалі працаваць групы з беларускай мовай навучання. Урачыстасць адбудзецца 16 траўня – з удзелам гасцей, дзіцячых выступаў і святам супольнасці.

Аднак свята – гэта і нагода для шчырай размовы пра надзённыя выклікі. Чаму зніжаецца колькасць дзяцей у беларускіх групах? У чым асаблівасці супольнага навучання дзяцей з Падляшша і Беларусі? Ці хопіць сіл і людзей, каб беларуская мова ў садку жыла далей? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае дырэктар установы – Ганна Смык-Койла.

**– Колькі зараз выхаванцаў ёсць у беларускім садку і што адбываецца з наборам на наступны год?**

– Набор на наступны год у нас ужо завяршыўся ў сувязі з тым, што на першым этапе набору звярнулася да




нас толькі 20 асоб. З 1 верасня 2025 года мусім ліквідаваць адну групу. Раней у нас было 7 груп. Ад верасня ў нас будзе 6. Скарачэнні адбываюцца не толькі ў нас, але і на многіх іншых пляцоўках у Беластоку. Ёсць больш вольных месцаў, чым заявак ад бацькоў. У нас будзе 3 групы беларускія і 3 групы польскія. Шкада што так адбываецца, але на гэта мы ніяк не можам паўплываць. Дзяцей цяпер нараджаецца ўсё менш.

**– Колькі ўсяго заявак было пададзена на наступны навучальны год у беларускія групы?**

– На новы школьны год да нашага дзіцячага садка звярнулася 12 асоб, якія выказалі жаданне патрапіць у беларускія групы. І гэта не дало магчымасці стварыць новую групу.

**– Раней было больш заявак? І чым выклікана, што беларуская меншасць не дае перавагу вашаму садку?**

– Раней, канечне, было дзяцей больш. Цяжка казаць пра нейкую адну прычыну таго, што жадаючых стала менш. Гэта не вынікае з таго, што ўвогуле няма зацікаўлення, а хутчэй вынікае з таго, што падае нараджальнасць. У гады 2023-2024 нарадзілася менш дзяцей. І таму бракуе выхаванцаў для нашых пляцовак. І гэта не датычыць толькі нашага дзіцячага садку. Але з другога боку існуе ў краіне такая тэндэнцыя, і яна заўважная ва ўсім свеце, што людзі губляюць сваю самаідэнтыфікацыю, свае культурныя каштоўнасці, звязаныя з нацыянальнасцю, асабліва калі яна належыць да меншасці ў краіне. І людзі прымаюць рашэнні, маюць на гэта права. Таму шмат залежыць ад бацькоў, гэта яны мусяць несці адказнасць за выхаванне сваіх дзяцей. Гэта складаны працэс, але тэндэнцыя ўніфікацыі тут відавочна назіраецца.

racyja.com

навіны

# ВЕЧАРЫНА ПАМЯЦІ ВІКТАРА ШВЕДА

29 сакавіка ў сядзібе Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку адбылася сустрэча, прысвечаная творчасці Віктара Шведа, прымеркаваная да ста гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага паэта, які прыйшоў на свет 23 сакавіка 1925 г. і памёр 22 кастрычніка 2020 года (пахаваны на праваслаўных могілках у роднай вёсцы Мора на Гайнаўшчыне).

На вечарыну „У маіх вершах – сэрца насцеж…“ жонка Валянціна Швед, БГКТ і Цэнтр беларускай культуры ў Беластоку запрасілі сяброў і калег паэта, таксама прыхільнікаў і чытачоў яго вершаў з маладога пакалення, журналістаў ды пачэсных асоб. Дэкламаваліся выбраныя творы Віктара Шведа, успаміналі аўтара калегі з БГКТ, „Нівы“ і літаб’яднання „Белавежа“, у тым ліку 90-гадовыя ўжо Яніна Чэрнякевіч, а. Андрэй Беразавец і Янка Зенюк. Сяброўка з Саюза польскіх літаратараў, беластоцкая паэтка Крыстына Канэцкая нагадала, што “ён быў светлы, чысты беларус, і пра гэта цяпер трэба гаварыць, хваліць, ганарыцца, шанаваць”. Як музычны акцэнт Люба Гаўрылюк і Ала Каменская – маці з дачкой – праспявалі песні на вершы Віктара Шведа, гімны Беласточчыне.



czasopis.pl

**кнігі**

# KAMUNIKAT.ORG АДЗНАЧАЕ 25-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ

“Нараджэнне „Камунікату“ супала з нараджэннем сына”, – расказаў заснавальнік праекту беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Kamunikat.org Яраслаў Іванюк.

Днямі спаўняецца 25 гадоў беларускай інтэрнэт-бібліятэцы Kamunikat.org, якая была заснаваная і папаўняецца ў Беластоку. Яе наведнікі – пераважна беларусы.

20 траўня ў Гданьску адбылася сустрэча з чытачамі “Камунікату”, прымеркаваная да 25-х угодкаў бібліятэкі. Да вашай увагі гутарка з польскім журналістам, этнічным беларусам Яраславам Іванюком, які прыдумаў інтэрнэт-бібліятэку “Камунікат”, чвэрць стагоддзя рупіцца за яе развіццё і пашырыў справу аднайменным выдавецтвам.




### Сын Хрыстафор і кніжны праект нарадзіліся адначасова

Паводле Яраслава Іванюка, інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org пачалася з ідэі захаваць самыя адметныя і цікавыя беларускамоўныя тэксты, якія прагучалі на хвалях Польскага радыё, а пасля маглі б знікнуць у віхуры падзей.

На Польскім радыё ў Варшаве, у беларускай моўнай рэдакцыі, Яраслаў Іванюк пачынаў працу ў 1992 годзе. “Пазней, праўда, з’ехаў у Беласток, але дагэтуль супрацоўнічаю”, – кажа Іванюк:

“На той час, у 1990-х, з адабраных беларускіх тэкстаў складаўся папяровы бюлетэнь, які потым рассылалі беларускім слухачам Польскага радыё. Але ў пачатку 2000 году мне падумалася, што варта перавесці гэтыя тэксты ў інтэрнэт, каб захаваць іх больш надзейна.

Так супала, што гэтая праца пачалася ў час, калі мусіў з’явіцца на свет мой сын Хрыстафор. Бо якраз калі чакалі нараджэння сына, мая жонка Данута, якая з адукацыі матэматык, навучала мяне, як размяшчаць бібліятэку ў інтэрнэце. Справа мяне захапіла, а тут і сын нарадзіўся. Таму часам я нават жартую, што ў мяне тады нарадзіліся двое дзяцей – Хрыстафор і „Камунікат“. А цяпер буду адзначаць ажно два юбілеі”, – жартуе Яраслаў Іванюк.

Супрацоўнік Польскага радыё згадвае, як атрымалася, што на першае месца спачатку выйшла гістарычная тэматыка: найбольшае зацікаўленне ў наведнікаў інтэрнэт-бібліятэкі спачатку выклікала рубрыка “Гістарычнае падарожжа”.

“Гэта падказала ідэю таксама размясціць поруч з нашым бюлетэнем „Беларускі гістарычны зборнік“. Прапанаваў гэта сябрам з Беларускага гістарычнага таварыства ў Беластоку Яўгену Мірановічу і Алегу Латышонку, і тыя пагадзіліся.

Пазней пайшлі іхныя кніжкі, якія выходзілі на Падляшшы, потым кнігі беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа“. Тады звярнуўся ў ЗША да дзеячоў беларускай эміграцыі з запытам, ці можна выставіць у „Камунікаце“ кнігі Беларускага інстытуту навукі і мастацтва, і яны таксама пагадзіліся.

І вось так гэта пакацілася. Пачыналася ўсё вельмі сціпленька, я нават не думаў, што будзе рэальная бібліятэка, а цяпер дайшлі да 65 тысяч беларускіх публікацый на „Камунікаце“: кнігі, часопісы, газеты, аўдыёкнігі. Кіруемся прынцыпам: у адным месцы сабраць усё, што на беларускай мове або пра Беларусь на іншых мовах”.

Сярод прыкметаў таго, што вось ужо 25 гадоў “Камунікат” робіць вельмі важную для беларушчыны справу, Яраслаў Іванюк называе не толькі вялікую папулярнасць бібліятэкі. Згадвае выдавец і загад міністэрства інфармацыі Беларусі аб блакаванні яе галоўнага дамену kamunikat.org. “Але дзелавога настрою праз гэта мы не страцілі”, – запэўнівае галоўны бібліятэкар “Камунікату”.

“Не скажу, што гэта не выклікала адмоўных вынікаў, напэўна, выклікала, але… Беларусы ўжо навучыліся карыстацца тэхналогіяй VPN. Нас блакуюць таму, што гэта беларуская інтэрнэт-бібліятэка, а ім усё, што беларускае, не падабаецца. Але ў нас свая справа, якой не здраджваем”.

### Шлях ад электронных да папяровых кніг

Некалі адзін беларускі паэт прыдумаў для інтэрнэт-бібліятэкі трапны лозунг “Беражы лес, чытай кнігі на Kamunikat.org”. Усё было слушна: бібліятэка ад заснавання арыентавалася найперш на абслугоўванне сваіх чытачоў праз сеціва. Але сітуацыя змянілася ў пачатку 2020-х гадоў, калі ў Беларусі адбыліся масавыя пратэсты супраць фальшавання прэзідэнцкіх выбараў і пачалася масавая эміграцыя беларусаў з прычыны рэпрэсій. Гэта не магло не ўплываць на рэсурсы, якімі карысталіся беларусы ў эміграцыі, заўважае Яраслаў Іванюк.

“Калі столькі людзей з’ехала з Беларусі, у іх узнікла патрэба мець пад рукой беларускія кнігі і ў эміграцыі. Тады менавіта мы пачалі дзейнічаць як выдавецтва, заняліся рыхтаваннем да друку і выданнем папяровых кніг. Назва засталася такая ж – Kamunikat.org.

Першая папяровая кніга выйшла ў лістападзе 2021 года, і з таго часу мы выдалі больш за 60 беларускіх кніг. У тым ліку і кнігу, якая будзе сёння прэзентаваная ў Гданьску, – “Прыгоды дзядзі Віці на Валадарцы” Алега Груздзіловіча.

### Што натхняе

На працягу 2024 года з сайта Kamunikat.org было зроблена 1 мільён 200 тысяч спампаванняў файлаў, паведаміў Яраслаў Іванюк. Паводле яго, гэта сведчыць, што праца, якую яны вядуць 25 гадоў, патрэбная беларусам і тым людзям у свеце, хто цікавіцца беларушчынай.

“Гэты мэсыдж пра патрэбу нашай працы мы атрымліваем і на рознага тыпу імпрэзах. Вось 15–18 траўня ў Варшаве прайшоў міжнародны кніжны кірмаш, у якім мы бралі ўдзел, на яго прыходзілі сотні беларусаў, жыхароў Варшавы. Яны наведвалі наш стэнд, куплялі нашы кнігі, былі шчырыя размовы на беларускія тэмы.

Сёння тое ж адбудзецца ў Гданьску. Беларусы ў замежжы застаюцца чытацкай нацыяй, якая цікавіцца сваёй гісторыяй, глядзіць у будучыню, шануе мастацкае і паэтычнае слова.

Дарэчы, беларусы кажуць, што ім вельмі патрэбныя сканы кніг, якія выйшлі яшчэ ў дакамп’ютарны час, патрэбны сканы прэсы, патрэбныя аўдыёкнігі”, – кажа Іванюк.

Сваю асабістую матывацыю Яраслаў Іванюк тлумачыць уласнай гісторыяй.

“Калі заблакавалі сайт Kamunikat.org, да мяне звярнуліся беларускія журналісты незалежных медыяў з пытаннямі аб прычынах гэтага блякавання: што мы пра гэта думаем. А ў канцы размовы адзін з журналістаў запытаў: „Яраслаў, а нашто вам гэта? Вы маглі б быць звычайным этнічным палякам і не займацца гэтым зусім“.

Заўважу, што словы пра „этнічнага паляка“ не былі выпадковымі, бо так аднойчы назвала мяне рэжымная прапаганда ў тэлевізійнай праграме „Панарама“. І папраўдзе, я тады толькі задумаўся: „А сапраўды, навошта мне гэта?“ Я сам з Падляшша, мае продкі беларусы, і для мяне заўсёды было настолькі натуральна, што займаюся папулярызацыяй беларускай літаратуры, што і не ставіў ніколі сабе такіх пытанняў”.

### Адкуль сродкі на бібліятэку і выданне кніг

Яраслаў Іванюк ў размове пра юбілей “Камунікату” расказаў і пра складаны бок справы – фінансавы.

“А што замінае? Ну як сказаць.

На такую працу ўсё ж патрэбныя вялікія фінансы. Мы працавалі першыя 7 гадоў без аніякай падтрымкі, пазней вялікую дапамогу нам аказвалі рознага тыпу донары і спонсары, як установы, гэтак і прыватныя асобы, якім мы вельмі ўдзячныя. Найперш бы адзначыў Міністэрства замежных справаў Польшчы, дзякуючы падтрымцы якога ўзнік першы варыянт прафесійнага „Камунікату“.

Таксама розным чынам падтрымлівала нас нідэрландская амбасада ў Польшчы, і цяпер з ёю сумесна рэалізуем праект у рамках праграмы MATRA. Маем падтрымку з Падляскага ваяводства, ад горада Беластока, рэалізуем праекты разам з Міжнародным саюзам беларускіх пісьменнікаў.

Яшчэ супрацоўнічалі доўгі час з амерыканскай фундацыяй NED, і гэта было вельмі важна, але цяпер, як ведаеце, з амерыканскімі сродкамі дапамогі стала складаней… І ўсё ж мы не спыняемся, значную частку нашай працы робім грамадскім чынам. Тое, што цяпер з’яўляецца на „Камунікаце“, як тыя ж сканы беларускай прэсы, робіцца грамадскім чынам. І паколькі мы лічым, што гэта патрэбна, дык і надалей будзем тое рабіць, нягледзячы на перашкоды”, – упэўнены Яраслаў Іванюк.

### Аўдыёбукі, папяровыя кнігі. Чаго чакаць сёлета?

Яраслаў Іванюк запэўнівае, што і ў 2025 годзе інтэрнэт-бібліятэка “Камунікат” будзе пашырацца.

“Спадзяюся, што ў канцы летніх вакацый выйдзе аўдыёбук з кнігай, з якой пачыналася нашая выдавецкая дзейнасць у 2021 годзе, – гэта раман Уладзімера Някляева “Гэй Бэн Гіном”. Яго запісваюць беларускія акторы, якія з’ехалі з Беларусі з палітычных прычынаў. Таксама будзем аблічбоўваць беларускую прэсу, будзем выстаўляць кнігі, з аўтарамі якіх нам удасца заключыць ліцэнзійныя дамовы. І будзем надалей займацца выдавецкай дзейнасцю. Больш за 60 кніг мы ўжо выдалі.

Плануем выдаць раман “Каласы пад сярпом тваім” Уладзімера Караткевіча, спадзяюся, увосень гэтая кніга выйдзе з друку.

Таксама збіраемся выдаць пераклад кнігі “Беларускі снайпер” Лешэка Шарэпкі, былога амбасадара Польшчы ў Беларусі.

Яшчэ вядзем перамовы, але спадзяюся, што ў чэрвені заключым дамову на выданне кнігі Анэты Прымакі-Онішк “Камяні мусілі паляцець. Сцёртае мінулае Падляшша” (Kamienie musiały polecieć. Wymazana przeszłość Podlasia). Гэта вельмі важная кніга для нашай гістарычнай памяці, перш за ўсё для беларусаў Беласточчыны, але таксама і для ўсіх беларусаў. Надзвычай цікавая кніга пра пасляваенныя гады на Сакольшчыне, на поўначы Беласточчыны. Спадзяюся, яна выйдзе да канца года.

Таксама рыхтуем да выдання кнігу новых “фрашак” Севярына Квяткоўскага.

Мяркую таксама, што будуць новыя кнігі з серыі “Бібліятэка Свабоды”, бо нам удалося заключыць ліцэнзійную дамову з “Радыё Свабода”.

І яшчэ з навінак, якія на падыходзе, – выйдзе трэці нумар часопіса “Апостраф”, які замяніў “Дзеяслоў”, – падзяліўся планамі выдавецтва Kamunikat.org на сёлетні год Яраслаў Іванюк.

### Як адзначаць юбілей “Камунікату”

“Юбілей будзем адзначаць у асноўным актыўнаю працаю”, – кажа Іванюк і раскрывае першы сакрэт: “Сённяшняя сустрэча ў Гданьску – толькі пачатак. Галоўнае адбудзецца ў чэрвені, тады правядзем сустрэчу сяброў нашай інтэрнэт-бібліятэкі. А дзе? Скажам гэтак – на Беласточчыне”.

svaboda.org

навіны

# РУХ “КРАІНА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ” СТВАРАЕ АДНАЙМЕННУЮ ПАЛІТЫЧНУЮ ПАРТЫЮ

Установчы з’езд палітычнай партыі “Краіна для жыцця” прайшоў 10 траўня ў Варшаве, паведаміў кіраўнік аргкамітэту па стварэнні структуры Віталь Савюк.

Паводле яго слоў, рашэнне аб трансфармацыі аднайменнага грамадскага руху ў партыю стала “вынікам шматгадовай працы актывістаў, якая пачалася яшчэ падчас прэзідэнцкай кампаніі 2020 года”.

Ён адзначыў, што пасля эміграцыі Святланы Ціханоўскай многія з актывістаў працягнулі сваю дзейнасць: каардынавалі дваровыя ініцыятывы, аказвалі дапамогу палітвязням, шукалі спосабы супраціву ўнутры краіны і за мяжой.

Ва ўмовах немагчымасці рэгістрацыі партыі ўнутры Беларусі ў 2021 годзе быў створаны грамадскі рух “Краіна для жыцця”. У яго, паводле слоў Савюка, увайшлі не толькі ўдзельнікі прэзідэнцкай кампаніі Ціханоўскай, але і актывісты, якія збіралі



подпісы за альтэрнатыўных кандыдатаў, а таксама “прадстаўнікі лакальных ініцыятыў з усёй краіны”.

Таксама ён паведаміў, што ў 2024 годзе ўдзельнікі руху “прыйшлі да высновы, што для працягу сістэмнай працы неабходна фармаваць палітычную сілу”. “Быў створаны аргкамітэт па стварэнні партыі. Гэта рашэнне выспела як адказ на запыт часу і на расчараванне ў неэфектыўнасці існых фарматаў”, – дадаў ён.

“На з’ездзе прысутнічалі запрошаныя госці – нашы партнёры і аднадумцы, якія падтрымліваюць нас і цэняць нашу працу, і іншыя прадстаўнікі розных арганізацый і ініцыятыў. Аднак важна падкрэсліць: прысутнасць на з’ездзе не азначае аўтаматычнага ўваходжання ў аргкамітэт. Мы імкнемся да адкрытага дыялогу і запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх, каму блізкія каштоўнасці свабоды, годнасці і салідарнасці”, – сказаў Савюк.

У аргкамітэт таксама ўвайшла даверанная асоба Ціханоўскай на выбарах 2020 года Ева Сапрыгіна, паведаміў ён, анансаваўшы неўзабаве публікацыю статута і праграмы партыі.

“Наперадзе шмат працы: фарміраванне структуры, умацаванне ўзаемадзеяння з дыяспарай, развіццё палітычнай платформы – сумленнай перад людзьмі, дзеля якіх і пачалася гэтая барацьба”, – падкрэсліў Савюк.

Блок “Краіна для жыцця” ў 2024 годзе балатаваўся ў склад Каардынацыйнай рады, аднак не быў абраны.

pozirk.online

# ЧЫМ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА ШВЕЦЫІ?

Дапамога беларускім уцекачам, удзел у акцыях у падтрымку Украіны і ўкраінцаў, абмеркаванне будучыні Беларусі і Украіны, падрыхтоўка да Купалля.

Такія бягучыя справы прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Швецыі, – распавяла валанцёрка Народнай Амбасады Беларусі ў Швецыі Інга Ліндквіст:

– Кожны першы чацвер месяца мы збіраемся суполкай – піва п’ем, размаўляем, культурныя івэнты праводзім. У траўні нічога не плануем, але першы чацвер у нас – гэта святое.

Як і заўсёды апошнім часам найбольшая колькасць удзельнікаў збіраецца менавіта на культурніцкіх мерапрыемствах. Асаблівай цікавасцю карыстаецца адзначэнне беларускіх традыцыйных святаў.

racyja.com



навіны

# Чорныя і белыя кашулі на акцыі ў Вільні сталі сімваламі тых, хто ўвязнены і хто памёр у турмах Беларусі

У Вільні прайшлі акцыі салідарнасці з беларускімі палітвязнямі.



21 траўня адзначаецца Дзень салідарнасці з беларускімі палітвязнямі, ён прымеркаваны да чацвёртых угодкаў смерці ў шклоўскай турме Вітольда Ашурка.

Імпрэзы да гэтай даты пачаліся 18 траўня ў Вільні на Кафедральным пляцы і будуць працягвацца цэлы тыдзень у розных краінах.

Асацыяцыя беларускіх палітвязняў і грамадская арганізацыя "Дапамога" зладзілі ў цэнтры Вільні акцыю "Рука дапамогі", забег на сімвалічныя 2334 метры (па нумары артыкула, па якім масава судзілі ў Беларусі ўдзельнікаў акцый пратэсту) ад Алеі беларускай дэмакратыі, што знаходзіцца каля Сейму Літвы, да Кафедральнай плошчы, і мітынг.

На мітынгу прачыталі апошні ліст Вітольда Ашурка да маці Алены Міронаўны, у якім ён супакойваў яе і абяцаў хуткую сустрэчу, што ўжо ніколі не адбылася.

Сам Вітольд памёр 21 траўня 2021 года ў шклоўскай турме, а ягоная маці – праз тры гады ў Бярозаўцы на Гарадзеншчыне.

Апрача Ашурка такі ж лёс спаткаў Алеся Пушкіна, Мікалая Клімовіча, Ігара Ледніка… Усяго сем партрэтаў са знічкамі і кветкамі паставілі каля віленскай катэдры.

У іншай інсталяцыі сярод дзясяткаў чорных кашуль, якія сімвалізавалі 1200 цяперашніх палітвязняў, было 7 белых кашуль.

"Белыя кашулі сімвалізуюць душы памерлых у турмах палітвязняў, нашых анёлаў",– сказалі "Радыё Свабода" арганізатары акцыі, якія зрабілі гэтую інсталяцыю, самі былыя палітвязні, рэпрэсаваныя і ўцекачы з Беларусі.

Святлана Ціханоўская на мітынгу згадала тых, каму не дазволена атрымліваць лісты або перадачы, бо яны занесеныя ў спісы "асабліва небяспечных", якіх трымаюць у поўнай ізаляцыі ад знешняга свету, інкамунікада.

"Гэта выпадак Аляксандра Арановіча, Віктара Бабарыкі, Максіма Знака, Марыі Калеснікавай, Уладзіміра Кнігі, Ігара Лосіка, Мікалая Статкевіча – а таксама майго мужа, Сяргея Ціханоўскага. Мы, іх блізкія, жывем у поўнай невядомасці: ці жывыя яны наогул? Я ўжо не ведаю, што адказваць дзецям на пытанне "Калі тата вернецца?" – сказала Ціханоўская.

Ад яе мужа Сяргея Ціханоўскага няма вестак ужо 800 дзён.

Праваабаронца Леанід Судаленка расказаў, якая дапамога палітвязням магчымая, і што можна рабіць ужо цяпер:

"Лісты падтрымкі, публічнасць і інфармацыйны ціск, падтрымка сямей палітвязняў. Напісаць хаця б 1 ліст на тыдзень – гэта ўжо ўнёсак. Пералічыць хоць 5–10 € у фонд – гэта ўжо падтрымка. Зрабіць пост, згадаць імя палітвязня – гэта ўжо справа. Размаўляць з сябрамі, удзельнічаць у кампаніях – гэта ўжо ўчынак. Найлепшая салідарнасць – гэта салідарнасць штодзённая, ціхая і ўпартая".

Ад Сейма Літвы да віленскай катэдры прайшоў забег, удзельнікі якога мелі на сваіх кашулях біркі з імёнамі палітвязняў, за якіх яны беглі.

Аляксандр Дабравольскі бег за Таццяну Кузіну.

"Не трэба забывацца, што ёсць людзі, якія не могуць ні бегчы, ні быць з роднымі, ні быць дома. Мы можам выказаць салідарнасць з імі такім чынам. Я бягу на знак салідарнасці з Таццянай Кузінай, якую добра ведаю. Яна выпускніца школы палітычных даследаванняў, выдатны палітолаг, якая апынулася за кратамі толькі за тое, што каментавала падзеі, за сваю прафесійную дзейнасць".

Наталля Калегава, у будынку якой у Вільні знайшлі прытулак многія былыя палітвязні, кажа, што гэтыя акцыі для яе – гэта падзея надзеі.

"Таму што шмат людзей, якіх мы тут ужо бачым, гэта былыя палітвязні. Але былых палітвязняў не бывае. Гэта яшчэ доўга застаецца з імі, у іх дзеяннях, у іх поглядах. І гэта не толькі нам, але і ім дае магчымасць выявіць салідарнасць з тымі, хто там яшчэ застаўся, на фронце. Таму што турма – гэта фронт. Статкевіч некалі сказаў: „Пакуль людзі сядзяць у турме, тлее агонь рэвалюцыі". Ім ёсць магчымасць паказаць, што яны разам, а мы – гэта такі тыл цяпер, і мы паказваем гэта ўсім палітвязням, і гэта дае надзею, што мы вернемся ў вольную Беларусь".

svaboda.org




## 9 траўня ва Украіне: ушанаванне памяці загінулых у Другой сусветнай і вайне супраць Расеі

9 траўня ў Івана-Франкоўску, на базе абласнога краязнаўчага музея, адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы "З Україною в серці", прысвечанай беларусам, якія загінулі ў расейска-ўкраінскай вайне.

Экспазіцыя змяшчае фотаздымкі, біяграфіі і гісторыі больш як 80-ці беларускіх добраахвотнікаў, што змагаліся ў шэрагах Узброеных сіл Украіны. Кажа кіраўнік фонду "Вільна Білорусь" Аляксей Францкевіч:

– Гэта 24-я лакацыя, дзе была ўрачыста адкрыта выстава "З Украінай у сэрцы". Прысутнічала жонка Зміцера Рубашэўскага (пазыўны Ганс) разам з дачкой. Яны распавялі пра беларускага героя. Таксама прысутнічаў камандзір "Азова", ён расказаў пра беларуса, які загінуў на "Азоўсталі".

Таксама 9 траўня на мяжы паміж Украінай і Беларуссю з'явіліся вялікія інфармацыйныя білборды, прысвечаныя памяці ахвяр Другой сусветнай вайны. На плакатах падкрэсліваецца: вайна пакінула глыбокія раны ў кожнай беларускай сям'і, і гэты досвед не павінен быць выкарыстаны для прапаганды ці гвалту.

racyja.com

навіны

# Святлана Ціханоўская ў Вашынгтоне: СУСТРЭЧЫ З КАНГРЭСМЕНАМІ, СЕНАТАРАМІ І ПРАДСТАЎНІКАМІ НОВАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ ЗША

Падчас візіту ў Вашынгтон, беларуская лідарка правяла шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі Кангрэса ЗША, Дзяржэпартаменту і аналітычных цэнтраў. Гэта быў першы візіт і першыя сустрэчы з прадстаўнікамі новай адміністрацыі ЗША.

Мэты візіту – умацаванне двухбаковага Стратэгічнага дыялогу, абмеркаванне наступных крокаў па вызваленні палітвязняў, аднаўленне Belarus Democracy Act, аднаўленне падтрымкі для незалежных медыя і "Радыё Свабода", прызначэнне спецпасланніка па Беларусі.

У Кангрэсе Ціханоўская сустрэлася з:

Кангрэсменамі Крысам Смітам, Джо Уілсанам, Марыё Дыяс-Балартам, Чакам Эдвардсам, сенатарамі Дэнам Саліванам, Рыкам Скотам, Джын Шахін, Дзікам Дурбінам і Роджэрам Уікерам. Таксама адбыліся брыфінгі з дарадцамі па нацыянальнай бяспецы і прадстаўнікамі Рэспубліканскай партыі, у тым ліку блізкіх да прэзідэнта Дональда Трампа.

Пра што дамовіліся падчас сустрэчаў?

- ініцыяванне слуханняў па Беларусі;
- падача на разгляд абноўленага Belarus Democracy Act;
- уключэнне рэпрэсій супраць вернікаў у дакументы Кангрэсу.

Асобна была праведзеная сустрэча з прадстаўнікамі Дзярждэпартаменту, у тым ліку з намеснікам памочніка дзяржсакратара Крысам Смітам і адказнымі за напрамак правоў чалавека і рэлігійнай свабоды.

Было абмеркавана:

- прызначэнне спецпасланніка па Беларусі;
- актывізацыя гуманітарных і палітычных намаганняў па вызваленні палітвязняў;
- падрыхтоўка новага пакета падтрымкі грамадзянскай супольнасці і беларускіх СМІ.

Ціханоўская падзякавала адміністрацыі за намаганні, якія прывялі да вызвалення Юрася Зянковіча, журналіста "Радыё Свабода" Андрэя Кузнечыка, і Алёны Маўшук.

"Апошняе вызваленне палітвязняў – гэта вынік міжнароднага ціску, і ЗША адыгралі ключавую ролю", – адзначыла Ціханоўская.



Акрамя гэтага, лідарка ўзяла ўдзел у:

- сустрэчы лідараў Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы з удзелам віцэ-прэзідэнта ЗША Джэй-Дзі Вэнса;
- выступы ў Hudson Institute і International Republican Institute (падчас дыскусіі пра закрытыя рэжымы: Беларусь, Венесуэла, КНДР).

Таксама Ціханоўская сустрэлася з беларусамі Вашынгтона, уручыла ўзнагароды – медалі Скарыны і медалі "За адданую працу" актыўным сябрам супольнасці, якія працягваюць падтрымліваць палітвязняў, журналістаў і рух у выгнанні.

Святлана Ціханоўская падкрэсліла: "Беларусь павінна быць часткай стратэгіі ЗША ў рэгіёне. Без вольнай Беларусі не будзе трывалага міру ў Еўропе".

tsikhanouskaya.org

# ПАДТРЫМКА РЭПРЭСАВАНЫХ І САЛІДАРНАСЦЬ З БЕЛАРУССЮ: ВЫНІКІ ВІЗІТУ ЦІХАНОЎСКАЙ У РЫГУ

9 траўня Святлана Ціханоўская наведала Латвію. У межах візіту беларуская лідарка сустрэлася са спікеркай парламента, Міністэрствам замежных справаў і выступіла на івэнце "Роля Беларусі ў палітычнай архітэктуры і архітэктуры бяспекі Еўропы: перспектывы Балтыйскага рэгіёну".

Міністэрства замежных справаў Латвіі абвясціла, што далучаецца да Міжнароднага гуманітарнага фонду і выдзяляе дадаткова 30 тысяч еўра на дапамогу рэпрэсаваным. Гэта прамая дапамога на рэабілітацыю, лячэнне і іншыя патрэбы былым палітвязням, іх сем'ям і рэпрэсаваным.

Падчас візіту Ціханоўская сустрэлася са спікеркай парламента Латвіі Дайгай Міерыняй і групай "За дэмакратычную Беларусь" у парламенце. Ціханоўская прапанавала спікерцы падпісаць мемарандум аб супрацы паміж Сеймам і беларускімі дэмакратычнымі сіламі.

Бакі таксама абмеркавалі кампанію падтрымкі палітвязняў. Ціханоўская запрасіла далучыцца да Міжнароднага дня салідарнасці з палітвязнямі 21 траўня. Яна падзякавала за праграму стажыровак для беларускіх актывістаў у Сейме. На гэтым тыдні першыя прадстаўнікі праходзяць стажыроўку ў латвійскім парламенце.

Ціханоўская падзякавала за выключэнні для беларусаў у законе аб абмежаваннях на аўтамабілі з беларускімі нумарамі і папрасіла зрабіць аналагічныя выключэнні ў новым законапраекце, які абмяжоўвае магчымасць набыцця нерухомасці грамадзянамі Беларусі ў Латвіі.




Разам са спікеркай парламента Ціханоўская ўзяла ўдзел у святкаванні Дня Еўропы – даты, калі ў 1950 годзе быў закладзены падмурак стварэння Еўрапейскага саюза.

З віцэ-спікеркай парламента Антанінай Нянашавай Ціханоўская адкрыла выставу малюнкаў беларускіх палітвязняў у памяшканні латвійскага парламента, падрыхтаваную Праваабарончым цэнтрам "Вясна" і асацыяцыяй беларусаў Латвіі "Суполка". На выставе прадстаўлены малюнкі палітвязняў Алеся Пушкіна, Паўла Севярынца, Руслана Слуцкага, зробленыя ў зняволенні. У сваім выступе Ціханоўская заклікала дэпутатаў браць патранаж над беларускімі палітвязнямі і актыўна змагацца за іх вызваленне.

У Міністэрстве замежных справаў Латвіі Ціханоўская адкрыла івэнт "Роля Беларусі ў палітычнай архітэктуры і архітэктуры бяспекі Еўропы: перспектывы Балтыйскага рэгіёну", дзе разам з экспертамі з Латвіі, Польшчы і Беларусі абмяркоўваліся выклікі бяспекі і шляхі падтрымкі дэмакратычных перамен.

Акрамя таго, беларуская лідарка выступіла на пленарным пасяджэнні Балтыйскай асамблеі, дзе заклікала да актыўнай салідарнасці з беларускім грамадствам і дэмакратычнымі сіламі.

Візіт завяршыўся сустрэчай з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Латвіі і інтэрв'ю мясцовым і міжнародным СМІ.

tsikhanouskaya.org

навіны

# БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ У ВІЛЬНІ ПАЧАЎ АБЛІЧБОЎВАЦЬ СВОЙ УНІКАЛЬНЫ КНІЖНЫ ЗБОР



Беларускі музей імя Івана Луцкевіча ў Вільні пачаў пераводзіць кнігі са сваёй бібліятэкі ў лічбавы фармат.

"На новым этапе баўлення Віленскі Беларускі Музей перайшоў да дыгіталізацыі кніжак са свайго збору. Паводле дамовы з Брытанскай бібліятэкай ды згодай з Бібліятэка Kamunikat, аблічбаваныя кніжкі выкладаюцца й на Камунікаце", – напісана на старонцы музея ў фэйсбуку.

Ужо пераведзены ў лічбавы фармат: "Беларускі спеўнік" Станіслава Станкевіча і паэма "Рагнеда" Лявона Случаніна.

budzma.org

in memoriam

# ВА ЎЗРОСЦЕ 40 ГАДОЎ ПАМЕРЛА МАСТАЧКА НІНА МАРГАЕВА

У Варшаве памерла мастачка Ніна Маргаева, пра гэта напісалі яе сябры. У жанчыны была цяжкая хвароба.



Нейкі час таму Ніна трапіла ў цяжкую сітуацыю, звязаную з нечаканай хваробай. У 2022 годзе яна з 12-гадовым сынам Міронам была вымушаная выехаць з Беларусі ў Польшчу, дзе атрымала статус дадатковай абароны. У студзені 2023 года ў Варшаве ў Ніны дыягнаставалі бакавы аміятрафічны склероз (БАС). На дадзены момант гэтая хвароба з'яўляецца невылечнай.

"Я здымаю кватэру, утрымліваю сына і пакрываю ўсе выдаткі на лячэнне. У цяперашні час мой фізічны стан значна пагоршыўся (не магу рухацца без падтрымкі, рукі амаль не дзейнічаюць, худнею), і мне патрэбна дапамога апекуна, якому таксама трэба плаціць", – пісала Ніна ў абвестцы на старонцы фундацыі "Kawałek Nieba". На дапамогу быў абвешчаны збор грошай.

Ніна Маргаева нарадзілася ў 1984 годзе. У 2007-м скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры па спецыяльнасці "народныя рамёствы" (спецыялізацыя – кераміка). Яшчэ падлеткам, Ніна пачала актыўна ўдзельнічаць у мастацкіх выставах і пленэрах.

У Мінску Ніна заснавала дзіцячую мастацкую студыю PLOT. Потым арандавала майстэрню і цягам 7 гадоў працавала з дзецьмі і дарослымі.

Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2020 года Ніна Маргаева падпісала "Адкрыты ліст дзеячаў культуры і мастацтва супраць гвалту і фальсіфікацыі выбараў".

На мастачку пачаўся ціск, і ў чэрвені 2022 года Ніна была вымушаная з'ехаць з Беларусі з сынам Міронам. У Варшаве запусціла новы праект "Glieba".

У Ніны застаўся 13-гадовы сын.

budzma.org

## Беларускі каляндар памятных дат на чэрвень 2025 года

**2 чэрвеня**
- 150 гадоў таму, у 1875-м, у Нясвіжы заснавана настаўніцкая семінарыя.

**5 чэрвеня**
- 155 гадоў таму, у 1870-м, нарадзіўся Зыгмунт Лазінскі, каталіцкі святар, біскуп. Памёр у 1932-м.

**7 чэрвеня**
- 200 гадоў таму, у 1825-м, нарадзіўся Эдвард Паўловіч, мемуарыст, мастак. Памёр у 1909-м.
- 145 гадоў таму, у 1880-м, нарадзіўся Вацлаў Іваноўскі, адзін са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай Грамады, выдавец, міністр асветы ў Радзе БНР.

**8 чэрвеня**
- 130 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Ігнат Дварчанін, літаратуразнавец, паэт. Расстраляны ў 1938-м.

**9 чэрвеня**
- 55 гадоў таму, у 1970-м, забіты Уладзімір Тамашчык (у манастве Васіль), праваслаўны святар, архіепіскап БАПЦ, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**10 чэрвеня**
- 115 гадоў таму, у 1910-м, памёр Мікалай Нікіфароўскі, этнограф.

**12 чэрвеня**
- 130 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Леапольд Родзевіч, драматург, паэт.

**14 чэрвеня**
- 125 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Міхась Забэйда-Суміцкі, спявак, дзеяч эміграцыі ў Чэхіі. Памёр у 1981-м.

**15 чэрвеня**
- 120 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Юрка Віцьбіч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1975-м.

**16 чэрвеня**
- 70 гадоў таму, у 1955-м, памёр Васіль Рагуля, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і ЗША.

**20 чэрвеня**
- 20 гадоў таму, у 2005-м, памерла Аляксандра Бергман, даследчыца гісторыі.

**21 чэрвеня**
- 205 гадоў таму, у 1820-м, нарадзіўся Браніслаў Залескі, мастак, пісьменнік. Памёр у 1880-м.
- 105 гадоў таму, у 1920-м, нарадзіўся Усевалад Родзька, вайсковы дзеяч.

**24 чэрвеня**
- 125 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Кузьма Чорны (сапр. Мікалай Раманоўскі), класік беларускай літаратуры. Памёр у 1944-м.

**26 чэрвеня**
- 125 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Мікола Цэлеш, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**Беларусы ў свеце**
№ 5 (276), травень 2025
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com